ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №86 (4444) СЕРАДА, 26 кастрычніка 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

**Міністэрства адукацыі і навукі выносіць на абмеркаванне педагагічнай грамадскасці Стратэгію рэфармавання адукацыйнай сістэмы ў Рэспубліцы Беларусь і Абгрунтаванне неабходнасці змен у існуючай адукацыйнай сістэме. Спадзяемся на творчыя і канструктыўныя прапановы і заўвагі.**

**Водгукі і прапановы накіроўвайце у Міністэрства адукацыі і навукі і рэдакцыю "Настаўніцкай газеты".**

## АБГРУНТАВАННЕ неабходнасці змен у існуючай адукацыйнай сістэме

Развіццё грамадства, укараненне ў вытворчасць новых тэхналогій значна павысілі патрабаванні да ўзроўню гатоўнасці маладога пакалення да самастойнага жыцця. Між тым, сучасная сістэма адукацыі недастаткова ўлічвае гэтыя абставіны і не ажыццяўляе поўнамаштабнай мэтанакіраванай дзейнасці ў даным накірунку. Больш таго, спробы вырашыць гэтыя пытанні ў межах існуючай сёння працягласці навучання вялі толькі да перагрузкі вучняў, што адмоўна ўплывала на ўзровень засваення імі вучэбнага матэрыялу, іх развіццё і здароўе. Нізкая арыентацыя зместу адукацыі на асобасныя адукацыйныя запыты навучэнцаў рэзка зніжала матываванасць навучання і, як вынік, неабходнасць "педагогікі прымусу" ў дзейнасці настаўнікаў.

Частка моладзі ва ўзросце 15—18 гадоў не можа альбо не хоча працягваць адукацыю і аказваецца па-за педагагічным уплывам і сацыяльным наглядам і, што галоўнае, неабароненай ва ўмовах канкурэнцыі на рынку працы. Беспрацоўе і адсутнасць педагагічнага ўздзеяння на гэтую катэгорыю падлеткаў стварае глебу для маладзёжнай злачыннасці, развіцця іншых адмоўных сацыяльных праяў.

Сёння вызначаны асноўныя накірункі рэфармавання адукацыйнай сістэмы з тым, каб яна магла адпавядаць зменлівым рэаліям сучаснага грамадскага жыцця.

На ўзроўні агульнаадукацыйнай школы:

— перагляд зместу адукацыі з мэтай павышэння яго матываванасці для вучняў, нармалізацыі суадносін тэхнакратычнага і гуманітарнага кампанентаў, уключэнне ў яго матэрыялу, які адпавядае патрабаванням сённяшняга дня;

— пераход на новыя адукацыйныя тэхналогіі, якія б забяспечвалі высокі ўзровень пазнавальнай дзейнасці вучняў у адукацыйным працэсе;

— павелічэнне тэрмінаў навучання, што дасць магчымасць зняць перагрузку вучняў абавязковымі занняткамі, утрымоўваць іх пад уплывам адукацыйнай сістэмы да дасягнення неабходнага ўзроўню фізічнай і сацыяльнай сталасці.

На ўзроўні прафесійнай адукацыі (пачатковай, сярэдняй і вышэйшай):

— пераход да шматузроўневай адукацыі, што дазваляе ў поўным аб'ёме ўлічваць як асобасныя патрабаванні да ўзроўню адукаванасці, так і патрабаванні работадаўцаў;

— даступнасць прафесійнай адукацыі і прафесійнай перападрыхтоўкі для людзей усіх узростаў;

— хуткае рэагаванне на змены ў эканоміцы і вытворчых тэхналогіях;

— павышэнне канкурэнтаздольнасці працаўніка за кошт пашырэння профілю яго прафесійнай падрыхтоўкі з адначасовым дасягненнем высокай кваліфікаванасці па пэўнай прафесіі.

Гэта усё мае перадумовай паляпшэнне акадэмічнай (агульнанавуковай) падрыхтоўкі выпускнікоў прафесійных навучальных устаноў сярэдняга і вышэйшага ўзроўняў, што патрабуе:

— удасканалення сістэмы непарыўнай адукацыі;

— развіцця ўніверсітэцкай мадэлі вышэйшай адукацыі;

— інтэграцыі навучання і навукі, пераўтварэння ВНУ ў буйныя навуковыя і культурныя цэнтры;

— стварэння інфраструктуры адукацыі і навуковай дзейнасці, у прыватнасці сістэмы іх сучаснага інфармацыйнага забеспячэння;

— ліквідацыі ў прафесійнай адукацыі ведамасных заслонаў.

## Стратэгія рэфармавання адукацыйнай сістэмы

Мэта рэформы заключаецца ў стварэнні самаразвіццёвай цэласнай сістэмы нацыянальнай адукацыі, накіраванай на задавальненне адукацыйных патрэб асобы, дзяржавы і грамадства.

Сутнасць рэформы:

Паводле зместу — пераход ад уніфікаванай, жорстка рэгламентаванай сістэмы адукацыі да дыферэнцавана-варыятыўнай, аператыўна рэагуючай на змены ў эканамічным і сацыяльным жыцці, што забяспечыць вучню магчымасць выбару зместу адукацыі і тыпу навучальнай установы ў адпаведнасці са сваімі жыццёвымі планамі, а педагогам — свабоду выбару форм і метадаў педагагічнай дзейнасці.

Паводле формы — пераход да 12-гадовага тэрміну навучання ў сярэдняй школе, стварэнне новых тыпаў прафесійна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і шматузроўневасці ў вышэйшай школе.

Прынцыпы рэфармавання:

— нацыянальна-культурная і рэгіянальная аснова адукацыі пры адначасовым засваенні вяршынь сукупнай чалавечай культуры;

— даступнасць адукацыі, роўнасць правоў кожнага на атрыманне адукацыі, незалежна ад нацыянальнай, рэгіянальнай, сацыяльнай прыналежнасці, матэрыяльнага становішча;

— гуманізацыя, гуманітарызацыя і дэмакратызацыя адукацыі;

— адзінства выхаваўчых і адукацыйных задач;

— варыятыўнасць шляхоў атрымання адукацыі;

забеспячэнне інтэграцыі адукацыі і культуры, ахова здароўя падрастаючых пакаленняў.

### СТРУКТУРА СІСТЭМЫ АДУКАЦЫІ

Дашкольная адукацыя і выхаванне (3—6 гадоў) — забеспячэнне аптымальных тэмпаў развіцця асобы дзіцяці, падрыхтоўкі да пачатку навучання ў школе.

Школа першай ступені (6—10 гадоў, 1—4 класы) — засваенне асноў граматнасці, фарміраванне першасных уяўленняў аб навакольным свеце, авалоданне сродкамі і метадамі вучэбнай дзейнасці. У гэтыя гады ўводзяцца элементы дыферэнцыяцыі ў адпаведнасці з інтарэсамі навучэнцаў па прадметах эстэтычнага ці філалагічнага цыклаў, фізічнай культуры.

Школа другой ступені (10—16 гадоў, 5—10 класы) — фарміраванне навуковага погляду на навакольны свет, авалоданне элементарнымі сродкамі пазнання. Навучанне вядзецца па праграмах, у якіх пераважае базавы кампанент. На апошнім этапе (8—10 класы) пастунова ўводзяцца элементы дыферэнцыяцыі па змесце навучання, ствараюцца профільныя класы і класы з паглыбленым вывучэннем прадметаў.

Базавая (дзесяцігадовая) адукацыя з'яўляецца абавязковай і стварае падмурак для пачатковай ці сярэдняй прафесійнай адукацыі, навучання ў дыферэнцаванай школе трэцяй ступені ці нават для ўключэння ў працоўную дзейнасць. Навучанне ў базавай школе завяршаецца дзяржаўнай атэстацыяй.

Школа трэцяй ступені (16—18 гадоў, 11—12 класы) — завяршэнне агульнай сярэдняй адукацыі. Школа трэцяй ступені з'яўляецца дыферэнцаванай, базавы кампанент зместу адукацыі ў якой не перавышае 60%. У 11—12 класах можа пачынацца перадпрафесійная падрыхтоўка па асноўных накірунках вышэйшай прафесійнай адукацыі ў ліцэях, класах гуманітарнага, прыродазнаўчага, эстэтычнага ці політэхнічнага (тэхналагічнага) профіляў.

Арганізацыйныя прынцыпы і ўмовы дзейнасці павінны забяспечваць дасягненне любога узроўню агульнай сярэдняй адукацыі выпускнікам як гарадскіх, так і сельскіх школ.

Навучанне ў сярэдняй школе завяршаецца дзяржаўнай атэстацыяй.

Атрыманне агульнай сярэдняй (дванаццацігадовай) адукацыі дазваляе перайсці да навучання ў прафесійных навучальных установах любога ўзроўню ці ўключыцца ў працоўную дзейнасць.

Пачатковая прафесійная адукацыя (на падставе базавай ці агульнай сярэдняй адукацыі) прадугледжвае атрыманне рабочай прафесіі ва ўстановах прафесійна-тэхнічнай адукацыі, у тым ліку і ў інтэграцыі з прафесійнай адукацыяй сярэдняга ці вышэйшага ўзроўню. Адначасова з прафесійнай падрыхтоўкай навучэнцы могуць атрымліваць і агульную сярэднюю адукацыю. Тэрміны навучання ва ўстановах данага ўзроўню залежаць ад складанасці прафесіі і ўзроўню кваліфікацыі.

Сярэдняя прафесійная адукацыя (на падставе базавай, агульнай сярэдняй ці пачатковай прафесійнай адукацыі) прадугледжвае атрыманне прафесіі сярэдняга ўзроўню з адначасовым атрыманнем у неабходных выпадках агульнай сярэдняй адукацыі. Побач з традыцыйнымі ўстановамі сярэдняй спецыяльнай адукацыі будуць ствараццa (з улікам рэгіянальных патрэб) каледжы і вышэйшыя каледжы, якія будуць спалучаць сярэднюю прафесійную адукацыю з вышэйшай.

Вышэйшая прафесійная адукацыя (на падставе агульнай ці прафесійнай сярэдняй адукацыі) прадугледжвае атрыманне прафесіі вышэйшых узроўняў. У сістэме вышэйшай прафесійнай адукацыі будзе уводзіцца шматузроўневая падрыхтоўка:

— першы ўзровень — падрыхтоўка спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй (тэрміны навучання — 4—5 гадоў). Студэнт мае права адначасова атрымаць акадэмічную ступень бакалаўра;

— другі ўзровень — паглыбленая падрыхтоўка спецыялістаў, атрымаўшых адукацыю першага ўзроўню. Студэнт можа адначасова атрымаць акадэмічную ступень магістра.

Спецыялісты, якія маюць акадэмічную ступень магістра, атрымоўваюць права на акадэмічную адукацыю ў аспірантуры і дактарантуры.

Сістэма павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў забяспечвае правядзенне прафесійнага ўзроўню спецыялістаў у адпаведнасць з нарастаючымі патрабаваннямі сацыяльна-эканамічнага развіцця грамадства.

Прапануемая сістэма адукацыі дазволіць:

— прывесці сістэму адукацыі ў адпаведнасць з новымі сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі яе дзейнасці;

— захаваць дасягненні айчыннай сістэмы адукацыі;

— нарасціць інтэлектуальны патэнцыял краіны;

— забяспечыць інтэграцыю адукацыйнай сістэмы Рэспублікі Беларусь у сусветную адукацыйную прастору.

### ЭТАПЫ РЭФАРМАВАННЯ

Першы этап — 1994 —1995 гг. Вызначэнне абавязковага кампанента зместу адукацыі для ўсіх ступеняў адукацыйнай сістэмы, стварэнне вучэбна-нарматыўнай дакументацыі.

Другі этап — 1995—1996 гг. Правядзенне арганізацыйных мерапрыемстваў па забеспячэнні пераходу да новай структуры адукацыйнай сістэмы.

Трэці этап — 1996 г. і далей. Ажыццяўленне пераходу да рэалізацыі дванаццацігадовай адукацыі ў сярэдняй школе, новага зместу адукацыі ў пачатковай і сярэдняй прафесійнай адукацыі і шматузроўневасці ў вышэйшай прафесійнай адукацыі.

## НГ-іНФАРМ

### Пасяджэнне калегіі Міністэрства адукацыі і навукі

26 кастрычніка 1994 года адбудзецца пасяджэнне калегіі з парадкам дня:

1. Аб стане і перспектывах развіцця універсітэцкай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Дакладчык намеснік міністра Т.ГАЛКО.

2. Рознае.

Пачатак у 10.30 па адрасе: Мінск, вул.Савецкая, 18 (Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт, 330-я аўдыторыя).

Вы хочаце, каб Вашы дзеці навучыліся як мага хутчэй, не стамляючыся, правільна і прыгожа пісаць? У Вас не будзе праблем, калі Вы набудзеце

НАВУЧАЛЬНЫ ДАПАМОЖНІК "ПРОПІСІ", ЯКІ ПАСКОРЫЦЬ НАВУЧАННЕ ПІСЬМУ Ў 2—3 РАЗЫ

"Пропісі"-лінейкі, якія прапануе фірма "Авангард", — незаменны сродак для арганізацыі эфектыўнай працы па беларускай мове і матэматыцы з вучнямі 1—2-х класаў агульнаадукацыйных школ і выхаванцамі падрыхтоўчых груп дзіцячых садоў.

"Пропісі" можна выкарыстоўваць і бацькам для індывідуальнага навучання сваіх дзяцей грамаце.

За даведкамі аб набыцці дапаможніка "Пропісі" звяртайцеся па тэлефоне ў Мінску: 36-91-42.

### ЗА КАМЕНТАРАМ — ДА ДЫРЭКТАРА

### ЧАГО Ж ВЫ, ДЗЕВАЧКІ, СЯДЗІБУ ЛЮБІЦЕ?

**У Калінкавіцкім ПТВ №184 пачалі навучацца дзяўчаты. Да гэтай пары сюды прымалі толькі хлопцаў па прафесіях меліяратыўнага будаўніцтва.**

— Гаспадыня сядзібы — так называецца спецыяльнасць, якую могуць атрымаць у нашым вучылішчы дзяўчаты з Калінкавіцкага і іншых раёнаў вобласці, — каменціруе дырэктар ПТВ Барыс Мікалаевіч Шахалевіч. — За тры гады навучання ў нашай установе дзяўчаты з базавай адукацыяй авалодаюць майстэрствам садоўніка, агародніка, кухара, бухгалтара.

Для больш паспяховага практычнага авалодання прафесіяй ў вучылішчы створана свая цяпліца, павялічыўся і зямельны надзел да 60 гектараў. Калінкавіцкі прамкамбінат прапанаваў і свае плошчы для праходжання навучэнцамі вытворчай практыкі.

Папулярнасць новай прафесіі расце штогод. Сёлета ўжо створаны дзве групы.

### ТРЫЦЦАЦЬ МАЙСТРОЎ

**Яшчэ адна прафтэхустанова Мінска атрымала нядаўна статус вышэйшай. Ёю стала ПТВ №32 паліграфістаў.**

— Наша вучылішча па-ранейшаму застаецца адзінай установай такога тыпу ў паліграфічнай вытворчасці краіны, — расказвае дырэктар новага ВПВ Анатоль Іванавіч Дземідовіч. — Таму натуральнае памкненне — пастаўляць для краіны не толькі кадры рабочых-друкароў, але і яе арганізатараў. Гэтай прафесіі і будзем вучыць нашу моладзь. А спачатку навучэнцы атрымаюць спецыяльнасць друкара высокага друку, пераплётчыка тэрмінам навучання ў тры гады. А потым, прайшоўшы экзаменацыйныя іспыты і тэсціраванне, лепшыя трыццаць чалавек прадоўжаць вучобу яшчэ на адзін год, каб стаць кіраўнікамі сярэдняга звяна паліграфічнай вытворчасці. Раней такія кадры рыхтавалі толькі ў Маскве.

Інтэрв'ю ўзяла
Ала КЛЮЙКО.

### ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА НА "НАСТАЎНІЦКУЮ ГАЗЕТУ"

Вы хочаце пастаянна быць у курсе адукацыйных навін, цікавіцеся інавацыямі ў адукацыі і выхаванні, вопытам педагогаў-майстроў, асноўнымі тэндэнцыямі развіцця школы за мяжой? Што ж, Вы маеце магчымасць заўсёды мець пад рукой такую інфармацыю і ў 1995 годзе. Для гэтага патрэбна толькі падпісацца на "Настаўніцкую газету".

Падпісны кошт на 6 месяцаў — 4.680 рублёў, на тры месяцы — 2.340 рублёў. Індэкс "НГ" — 63867.

## ШКОЛА ПАВІННА РЫХТАВАЦЬ ДА ПАЎНАЦЭННАГА ЖЫЦЦЯ

### Інтэрв'ю з міністрам адукацыі і навукі прафесарам Васілём Стражавым аб асноўных напрамках рэформы сістэмы адукацыі нашай краіны

**Пытанне:** Чаму дакумент, які сёння прапануецца для абмеркавання Міністэрствам адукацыі і навукі, мае такую назву: стратэгія?

**Адказ:** Бо гэта сапраўды стратэгія. Мы распрацоўваем рашэнні, якія будуць дзейнічаць на працягу даволі доўгага часу. Рэфармаваць адукацыйную сістэму ў адзін момант немагчыма — у адзін момант яе можна толькі разваліць. У гэтым сэнсе яе ўстойлівасць, разумны кансерватызм, можа, і нядрэнна. Але — да пэўнага часу.

**Пытанне:** Як можна зразумець з таго, што ўжо было апублікавана, новая стратэгія ў галіне адукацыі вялікую ўвагу ўдзяляе рэформе сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Чым можна растлумачыць такую "прывілею"?

**Адказ:** Неабходнасць рэфармавання сістэмы адукацыі, і сярэдняй школы ў прыватнасці, узнікла яшчэ ў пачатку 80-х гадоў. Спачатку думалі, што гэта зробіць Андропаў, потым спадзяваліся на Чарненку... Аднак далей настаўніцкіх нарад і з'ездаў, як рэспубліканскіх, так і ўсесаюзнага, справа не пайшла. Ніякіх дакументаў у выніку доўгіх дыскусій, фактычна, так і не з'явілася. Былі толькі прыняты некаторыя пастановы ЦК КПСС і Савета Міністраў па вышэйшай школе.

Такім чынам, неабходнасць радыкальных змяненняў у сістэме сярэдняй адукацыі нам засталася ў спадчыну ад Савецкага Саюза.

**Пытанне:** Чым жа менавіта выклікана гэтая неабходнасць?

**Адказ:** Тады, у 80-я гады, называліся такія прычыны: яўная перагрузка вучняў (што існуе і дагэтуль); строгая рэгламентаванасць навучальных праграм, адсутнасць дыферэнцыяцыі. Школе таксама вельмі не хапала самастойнасці.

І хаця ў той час рэформа так і не была абвешчана, тым не менш яна пачала патроху ажыццяўляцца ва ўсіх краінах былога СССР, у тым ліку і ў нашай краіне. Змяніўся падыход да дыферэнцыяцыі навучання, узніклі навучальныя ўстановы новага тыпу — гімназіі, ліцэі, каледжы. Школы сталі больш самастойнымі ў выбары навучальнага матэрыялу. Таму гаварыць, што з таго часу нічога не змянілася, было б няправільна. Рэформа, па сутнасці, пачалася яшчэ некалькі гадоў таму, яна ідзе — і ў нас, і ў краінах Балтыі, і ў Расіі. Але пакуль яшчэ не мае ўсеабдымнага характару.

Існуюць і больш сучасныя прычыны для рэфармавання нашай сістэмы адукацыі. Рэспубліка здабыла незалежнасць, і, натуральна, узнікла неабходнасць у стварэнні нацыянальнай сістэмы адукацыі незалежнай дзяржавы Беларусь. Бо і ў нас, і ў той жа Расіі, на Украіне і ў іншых краінах былога СССР пакуль што пераважае савецкая сістэма адукацыі. Я не маю на ўвазе нейкае негатыўнае ці ідэалагічнае адценне слова "савецкая". Для мяне гэта — толькі характарыстыка пэўнага падыходу да арганізацыі, зместу і тэхналогіі навучання.

З пазіцыі такога падыходу, чыста ўмоўна, можна было б вылучыць тры галоўныя тыпы школы, што існуюць у сучасным свеце.

Савецкая школа з жорсткай рэгламентаванасцю навучальных прадметаў, вывучаць якія абавязкова патрабуецца ў поўным аб'ёме. А яе канкрэтныя тэхналогіі і методыкі амаль што не пакідаюць прасторы для ўласнай ініцыятывы.

Другі тып — гэта амерыканская школа. Яна — поўная процілегласць савецкай. Тут вучань у большасці сам вырашае, што ён будзе вывучаць у адпаведнасці са сваімі здольнасцямі і жыццёвымі планамі. Прынцыповае адрозненне і ў тым, што ў савецкай школе пераважна вучаць, а ў амерыканскай — вучацца.

І, нарэшце, еўрапейская, ці заходнееўрапейская, якой у той ці іншай ступені ўласцівыя прыкметы і савецкай, і амерыканскай школ.

Кожная з іх мае свае плюсы і мінусы. Напрыклад, амерыканская школа для невялікай катэгорыі моцных вучняў, прыкладна для 10%, дае значны стымул для развіцця асобы. Аднак астатнія, без належнага кантролю і цягі да ведаў, пасля заканчэння школы застаюцца функцыянальна неадукаванымі. Гэта бяда амерыканскай школы. Але такую рысу, як накіраванасць на лепшых і моцных, можна было б выкарыстаць пры перабудове нашай школы.

**Пытанне:** На што ў першую чаргу накіравана гэтая перабудова?

**Адказ:** У сістэме адукацыі тры галоўныя складальнікі: арганізацыя, змест і тэхналогіі навучання. Сюды ж адносіцца і выхаванне, мы аб ім не забылі — праз некаторы час міністэрства прапануе сваю стратэгію рэформы выхаваўчай работы. Пакуль жа гэты аспект усебакова вывучаецца, паколькі ў сферы выхавання сёння існуе шмат праблем і супярэчнасцей.

Але вернемся да адукацыі. Наша стратэгія практычна не закранула тэхналогіі навучання. Гаварыць аб змене тэхналогій можна на навуковым узроўні, гэтае пытанне патрабуе грунтоўнай прапрацоўкі. Бо тэхналогія навучання цесна звязана і з яго арганізацыяй і зместам, з назапашаным вопытам, традыцыямі, менталітэтам. Неабходнасці ў радыкальнай змене тэхналогій у нас пакуль няма. Ды і немагчыма змяніць яе за кароткі тэрмін, такія пераўтварэнні дасягаюцца не рэвалюцыйным, а эвалюцыйным шляхам. Тут хацелася б нагадаць словы Бернштэйна, якія датычыліся крытыкі марксізму, але іх смела можна аднесці і да тэхналогіі навучання: "Канчатковая мэта — нішто, рух — усё".

Змест навучання ў нашым дакуменце таксама разглядаецца вельмі сцісла: штрыхамі акрэслены напрамкі, у якіх ён будзе змяняцца. Па гэтым пытанні яшчэ будзе шмат дыскусій, яго трэба сур'ёзна прапрацаваць.

Адзначу, што мы не ставілі сваёй задачай падрабязнае тлумачэнне, паколькі рыхтавалі прынцыповы дакумент стратэгічнага плана. Больш дэталёва звернемся да гэтых пытанняў пазней. Пакуль жа асноўны ўпор зроблены на арганізацыйныя структуры.

**Пытанне:** Наколькі мне вядома, Вы прапануеце павялічыць тэрмін навучання?

**Адказ:** Так. Таму што гэта сёння — рэальная неабходнасць. Спашлюся на еўрапейскі вопыт. Напрыклад, у базавай школе ў Польшчы абавязковае навучанне — з 7 да 15 гадоў і потым яшчэ чатыры класы — з 15 да 19 гадоў — для тых, хто мае намер паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову. У Германіі поўны курс навучання — з 6 да 19 гадоў. Таксама і ў Францыі, Англіі — ва ўсіх развітых краінах у школах вучацца да 18 ці 19 гадоў. Калі параўнаць школьныя праграмы па фізіцы, хіміі, матэматыцы, можна ўбачыць, што аб'ём навучальнага матэрыялу ў савецкай і заходнееўрапейскай школах прыблізна аднолькавы, а вучацца там на два гады болей. Такое адрозненне існуе часткова за кошт гуманітарных прадметаў. У Германіі, напрыклад, выпускнік сярэдняй школы валодае дзвюма еўрапейскімі мовамі, прычым адной з іх — на высокім узроўні. Аднак ёсць і другая прычына, якую я называў раней: наша школа перагружана. Аб'ём ведаў, які стараюцца ўціснуць — менавіта ўціснуць — у нашага вучня, не разлічаны на адзінаццаць гадоў навучання.

Таму мы прапануем абавязковае дзесяцігадовае навучанне, пры якім дзеці будуць знаходзіцца ў школе да 16 гадоў. Пасля дзесятага класа вучань атрымлівае пасведчанне аб заканчэнні няпоўнай сярэдняй школы і можа выбіраць: пайсці ў прафтэхвучылішча, у каледж ці — праз конкурсныя экзамены альбо тэсціраванне — паступіць у адзінаццаты клас, выпускнікі дванаццатага класа таксама могуць пайсці ў прафтэхвучылішча ці тэхнікум, але яны, да таго ж, маюць магчымасць паступаць у вышэйшую навучальную ўстанову.

Хацелася б спыніць увагу вось на чым. Пасведчанне аб няпоўнай сярэдняй адукацыі падлеткі атрымліваюць у 16 гадоў — як і пашпарт. Па ўсіх еўрапейскіх заканадаўствах, у тым ліку і нашых, у 16 гадоў чалавека ўжо можна прымаць на працу. А ў 18 гадоў, разам з атэстатам сталасці, маладыя людзі набываюць выбарчыя і іншыя правы дарослых грамадзян. З пункту гледжання ўзроставай псіхалогіі, фізіялогіі гэтыя гады вызначаюць асобныя этапы ў жыцці моладзі, у развіцці асобы. Пераход да дванаццацігадовага навучання пры абавязковым дзесяцігадовым, такім чынам, дазволіць прывесці ў адпаведнасць развіццё арганізма маладога чалавека з яго ўключэннем у дарослае жыццё.

**Пытанне:** Калісьці, пры Хрушчове, ужо рабілася спроба пераходу да адзінаццаці гадоў навучання...

**Адказ:** ... што якраз адпавядае пераходу ад цяперашняй адзінаццацігодкі да дванаццацігодкі. Там вучыліся з 7 да 18, тут — з 6 да 18 гадоў, але, па сутнасці, размова ідзе аб адным і тым жа. Ідэя Хрушчова заключалася ў тым, што школа павінна быць політэхнічнай і рыхтаваць чалавека да працы. Гэтаенаваўвядзенне праіснавала толькі шэсць ці сем гадоў. У той час няўдача тлумачылася праблемамі з матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем. Але прынцыповая памылка была ў тым, што найвышэйшую задачу сярэдняй школы — рыхтаваць яе выхаванцаў да жыцця ў сваім грамадстве — хрушчоўская рэформа не вырашала.

Наша стратэгія якраз і накіравана на тое, каб у бліжэйшы час вырашыць менавіта гэтую задачу. Я спадзяюся, што калі мы разгрузім вучняў, дык за кошт павелічэння аб'ёму гуманітарных прадметаў сапраўды зможам падрыхтаваць юнакоў да паўнацэннага жыцця за парогам школы.

(Працяг на 2-й стар.)

# НГ-ІНФАРМ

МІЖНАРОДНЫЯ КАНТАКТЫ

## НАШЫ Ў ГАНОВЕРЫ

**Незвычайная выстава пад назвай "Кваліфікацыя-94", на якой упершыню дэманстраваліся толькі што распрацаваныя метады і сістэмы, праграмы навучання і перападрыхтоўкі кадраў, павышэння кваліфікацыі тэхнічных спецыялістаў, адбылася ў германскім горадзе Гановеры. У ёй удзельнічалі 180 фірм з 23 краін свету, якія паказвалі самае найноўшае абсталяванне і самыя найноўшыя тэхналогіі. Адначасова праводзіліся семінары, на якіх аналізаваўся сусветны вопыт падрыхтоўкі спецыялістаў.**

Дзякуючы ўласнай ініцыятыве ўдзел у рабоце выставы прыняла дэлегацыя з Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі і Вышэйшага прафесійнага вучылішча № 1.

Як адзначыў кандыдат тэхнічных навук Эдуард Каліцкі, інтарэс да ўдзелу падаграваўся тым, што заходнія краіны ўкладваюць больш сродкаў не ва ўдасканаленне тэхналогій, а на павышэнне кваліфікацыі работнікаў. Прыкладна 350 млн. нямецкіх марак траціць Заходняя Еўропа на гэтыя мэты. І названая сума штогод павялічваецца на дзесяць працэнтаў.

Тое, што мы ўбачылі на выставе, дадаў прарэктар БДПА прафесар Ігар Філонаў, гэта прамысловая пастаноўка дыдактычных метадаў навучання, гэта сапраўдная індустрыя навучання. Нам была прадастаўлена магчымасць азнаёміцца з работай вядомых нямецкіх фірм "ФЭСТО" і "ЭЛВІ".

Цікава, што прамысловую аснову Германіі складаюць не монстры накшталт нашых МТЗ ці МАЗа, а маленькія прадпрыемствы. Да прыкладу, на фірме "ЭЛВІ" працуе ўсяго 200 чалавек, але сваёй прадукцыяй яна забяспечвае ўвесь свет і паспяхова канкурыруе нават з вялікімі прадпрыемствамі.

Што тычыцца экспанатаў, прадстаўленых дзвюма мінскімі навучальнымі ўстановамі, то немцы зацікавіліся праграмамі метадычнага забеспячэння, і ў першую чаргу напрацоўкамі ў бесперапыннай падрыхтоўцы спецыялістаў па схеме "рабочы—тэхнік—інжынер—магістр". Яны прапанавалі заключыць кантракт па сумеснай шматузроўневай падрыхтоўцы кадраў.

Гановерская выстава дае магчымасць кожнаму яе ўдзельніку даведацца пра тое, што робіцца ў свеце, знаёміць з накірункамі работы ў прамысловасці, навуцы і навучальных установах іншых краін. Паміж дзелавымі людзьмі тут завязваюцца самыя нечаканыя кантакты, якія раскрываюць цэлую сістэму сувязяў.

Для партнёраў з Усходняй Еўропы адкрываецца шырокая прастора для кантактаў з замежнымі фірмамі, пад якія адводзіцца дадатковае бязвыплатнае фінансаванне з недзяржаўных структур Германіі.

Шкада, што на выставе ніхто не прысутнічаў з урадавых структур, бо палітыка ў эканоміцы, лічаць спецыялісты, робіцца іменна тут. Тым больш, што Беларусі прадастаўлен шэраг фінансавых ільгот, тэрмін якіх праз год закончыцца.

Пятро ЮДО.

ДАСЬЕ "НГ"

## На карысць сусветнай рэвалюцыі

Неабходнасць рэфармавання асветы ў былой Расейскай імперыі наспела яшчэ перад Першай сусветнай вайной. У тагачасным грамадстве жылі спадзяванні, што пераўтварэнні будуць рабіцца разумна і паслядоўна, кампетэнтнымі, адукаванымі людзьмі. Абнадзейвала, напрыклад, дзейнасць міністра асветы графа Ігнацьева (1915 — 1916), пры якім шмат рабілася па аздараўленні і дэмакратызацыі школьнай справы. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года былі скасаваны ўсе ранейшыя абмежаванні (палітычныя, рэлігійныя, нацыянальныя, полавыя) у праве на атрыманне адукацыі. Меркавалася, што будзе створана стройная сістэма народнай асветы з пераемнасцю паміж навучальнымі ўстановамі розных ступеняў, пашырыцца аўтаномія вышэйшай і сярэдняй школы, а нацыянальныя меншасці атрымаюць права вучыцца на роднай мове. Пахіснулася манаполія праваслаўнай царквы, бо насаджэнне праваслаўя прыводзіла да адваротнага выніку: нават з духоўных навучальных устаноў нярэдка выходзілі рэвалюцыянеры-бязбожнікі (узгадаем прыклад са Сталіным). Таму ў школьнай праграме планавалася пакінуць толькі выкладанне гісторыі рэлігій. Але дэмакратычная эйфарыя хутка скончылася. Людзі, якія прыйшлі да ўлады у кастрычніку 1917 года, вырашылі праблемы народнай асветы іначай.

У 1918 годзе бальшавіцкі ўрад адмяніў ва ўсіх дзяржаўных навучальных установах выкладанне багаслоўскіх дысцыплін і старажытных моваў; з класавых пазіцый былі перагледжаны падручнікі і навучальныя дапаможнікі, скасавана сістэма адзнак і балаў, а прыватныя навучальныя ўстановы зачынены. У педагагічныя рады для кантролю ўводзіліся прадстаўнікі савецкай улады. Каб зрабіць асвету таннейшай для дзяржавы, гімназіі і вышэйшыя пачатковыя вучылішчы прыраўнялі да савецкіх школ II ступені. Зроблена гэта было чыста адміністрацыйнымі метадамі.

Узровень выкладання ў школах, якія мелі аднолькавы статус, істотна адрозніваўся. У архівах захавалася шмат пацвярджэнняў гэтаму. Так, адзін з былых вучняў менскай школы №9 (колішняе рэальнае вучылішча) узгадваў, што калі ягоныя адстаючыя аднакласнікі пераходзілі ў суседнюю школу (ранейшую пачатковую), то адразу траплялі там у лік выдатнікаў. Гэта добра ведалі прадстаўнікі новай савецкай наменклатуры. Сваіх дзетак яны пасылалі ў былыя элітарныя ўстановы, ператвораныя ў агульнаадукацыйныя школы з гімназіяў і рэальных вучылішчаў. Тым не менш сістэма класічнай адукацыі была надоўга пахавана.

Новаспечаныя савецкія чыноўнікі ў сваіх эксперыментах не ведалі межаў. Па палітычных меркаваннях з лютага 1918 года дзеля рэвалюцыянізацыі асветных устаноў загадам наркама А.Луначарскага ў педагагічныя рады ВНУ і сярэдніх школ пачалі ўключаць студэнтаў і навучэнцаў. Да якіх вынікаў гэта магло прывесці (і прывяло), сведчыць дакладная запіска спрактыкаванага педагога: "Валодаючы такім вялікім правам... навучэнцы не будуць несці ніякіх абавязкаў і ніякай адказнасці. Маральны ж бок перад грамадскасцю будзе ляжаць на выкладчыках. Галоўнай умовай выхаваўчага ўздзеяння на навучэнца з'яўляецца аўтарытэт педагагічнай рады, які грунтуецца на ўнутраных якасцях яго прадстаўнікоў. Пры гэтым... будзе парушана адзінства выхаваўчых мер... Навучэнцы будуць ведаць, хто за, хто супраць той ці іншай пастановы... Ужо і цяпер педагогі мусяць выконваць усё, чаго б ні пажадалі навучэнцы...". Стары педагог не памыляўся. Выкладчыкаў, якія ў нечым не дагадзілі ці былі патрабавальнымі і прынцыповымі, ап'янёныя усёдазволенасцю навучэнцы проста ігнаравалі, байкатавалі іхнія ўрокі, вымушалі звальняцца. Даходзіла нават да абсурду, калі большасць педагагічнай рады ВНУ складалі студэнты, а на пасаду кіраўніка навучальнай установы абіраўся іхні "важак".

Безабаронным быў настаўнік у тыя гады сацыяльна і палітычна. Жабрацкі заробак штурхаў яго шукаць працу адразу ў двух-трох месцах, што дрэнна адбівалася на школьнай справе. Але і зробленых у некалькіх месцах грошай не хапала. Каб пракарміць сям'ю, прыходзілася прадаваць асабістыя рэчы. Мясцовыя савецкія ўлады з настаўнікамі не цырымоніліся, асабліва з былымі гімназічнымі педагогамі ("буржуазнымі элементамі", "контрай"). Іх арыштоўвалі, забіралі іх маёмасць "на карысць сусветнай рэвалюцыі", "по просьбам трудящихся" ушчыльнялі кватэры... прыклады можна доўжыць і доўжыць.

Так на абломках расейскай імперскай будавалася новая савецкая школа.

Уладзімір ЛЯХОЎСКІ,
рэдактар выдавецтва
"Беларуская энцыклапедыя".

БУДНІ ШКОЛЫ

## ДНЁМ З АГНЁМ

*... — Вузка! Цесна! Мала!..*
*... — А скуль узяць? Скуль дастаць?..*
*... — Глядзіце, во прасторы! Во нівы, лясы, палі! Усё гэта наша!..*
*... — Лжэце! Няпраўда! Не дадуць: то казённае, дворнае — ні я, ні вы не маем права...*
*(Цётка, "Прысяга над крывавымі разорамі").*

Быў цёплы асенні дзень... Зусім як той, пра які пісала яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя вядомая пісьменніца Алаіза Пашкевіч. Адно што зараз на вуліцы стаяў тысяча дзевяцьсот дзевяноста чацвёрты, чарговы "судьбоносный" год.

Мае новыя знаёмыя, пакуль выйду са школы, цярпліва чакалі мяне ля Пячоры, а затым павялі паказваць Талачын. У горадзе, нягледзячы на паўдзённую часіну, ярка гарэлі... вулічныя ліхтарыкі. Днём з агнём было крыху ніякавата, затое весела, нават цікава, бо горад, даўно знаёмы, паўставаў зараз у зусім іншым святле. Новыя мае знаёмыя: Сашка-паэт (афіцыйна хлопец адрэкамендаваўся Аляксандрам Уладзіміравічам Елісеенкам), "галоўны спецыяліст у раёне па рамонту прасаў" Кукашынаў Мішка (ён жа Кекс) і проста Слава Мітрашкін, які, здавалася б, ніякімі асаблівымі заслугамі не вызначаецца, хіба што добра ўмее вешаць на вушы локшыну, іграць на нервах і яшчэ, як сам кажа, дзіка хваліцца ў лазні — вучацца тут у першай школе, у адзінаццатым "Б", ведаюць горад, як свае пяць пальцаў, і не тое што днём з агнём, нават уночы, зажмурыўшы вочы, маглі б тут сысці за экскурсаводаў.

Балазе, славутых мясцін у Талачыне не так і многа: царква і касцёл, вялікая галава Уладзіміра Ільіча, якая ўпрыгожвае галоўную плошчу горада і вельмі ж гарманіруе з бел-чырвона-белым сцягам, што весела лунае над будынкам гарвыканкама, "балота" — штучнае азярко сярод горада, якое, мабыць, некалі злучалася з ракою Друццю ды зараз адасобілася, а займеўшы суверэнітэт, парасло цінаю, супакоілася. На "балоце" гараджане яшчэ ловяць рыбу і часам нават купаюцца. Ёсць тут яшчэ шматлікія магазіны, дзве школы (трэцяя, мабыць, у пажыццёвых рыштаваннях) і "панская" вуліца, катэджы на якой растуць, як грыбы пасля дожджыку-грыбасея.

Адным словам, усё як у людзей. Нядаўна на "панскую" вуліцу павялі газ. Ці да школы тут? Добра, што новабудоўлю хаця накрылі, зараз не зацякаюць вуглы, астатняе пачакае. Дзеці і настаўнікі ўвогуле, мабыць, самы цярплівы на свеце народ. Не пачуўшы на жніўеньскай нарадзе ніводнага суцешнага слова пра новую прасторную школу, настаўнікі разбегліся па сваіх старых і цесных, з энтузіязмам працягваюць вучыць дзяцей, вучыць, стоячы, бадай, на адной назе, бо другую паставіць няма куды. Дзеці ж весела і радасна працягваюць "грызці навукі" ў цеснаце, ды не ў крыўдзе. Радуюцца познім асеннім кветкам, якія вакол школы ўтварылі суцэльны рознакаляровы дыван, радуюцца дожджыку, што ўночы вымыў асфальт.

Дожджык, дарэчы, нас і пазнаёміў. Каб не ён, наўрад ці дазволілі б мне настаўнікі гэтак доўга "тачыць лясы" ў адзінаццатым "Б". Урокі ёсць урокі. Ды вось жа, сабраліся дзеці на лён, прыйшлі ў рабочым адзенні, без кніжак, а тут надвор'е падвяло. Вучоба фактычна сарвалася — самы час пазнаёміцца з карэспандэнтам.

Багата чаго распавёў мне адзінаццаты. І пра тое, як гуляюць яны ў футбол за гонар роднага горада, нават бяруць удзел у абласных спаборніцтвах, і пра тое, як хораша выступае іхняя каманда КВЗ, і пра клуб культурыстаў ды аэробікі, і пра конную секцыю, і пра дыскатэку, і нават пра сувязь з Германіяй. А яшчэ адзінаццацікласнікі ахвотна расказалі мне пра сваю любімую настаўніцу Галіну Герасімаўну Казлову, з якою на ўроку — а вядзе яна ў іх курс сусветнай культуры — можна пагаварыць літаральна на любую тэму. Расказвалі так хораша, што мне і самому міжволі захацелася бліжэй пазнаёміцца з гэтым чалавекам.

А вось і яна сама. Сёння, дарэчы, дырэктара выклікалі на нараду, так што Галіну Герасімаўну, аднаго з намеснікаў, прашу пазнаёміць мяне са школаю. Найперш кіруем у актавую залу, дзе сёмыя класы наладзілі цудоўнае свята кветак. Сёння — гэта галоўная падзея ў школе. Заўтра наступяць першыя асеннія замаразкі і гордыя вяргіні апусцяць галовы, пацямнеюць, жывымі застануцца хіба больш устойлівыя да халадоў сальвіі. А сёння яшчэ пахне ў школе яркім квяцістым летам. І маленькая, не надта паглядная актавая зала, здаецца, становіцца больш утульнай і прасторнай. Сямікласнікі сёння з кожнай кветачкай на "ты"...

А Галіна Герасімаўна, дарэчы, таксама дырэктар, толькі былы. Гады чатыры, як выйшла на пенсію, перадаўшы школу ў надзейныя рукі Аляксандра Сцяпанавіча Палтарака, чалавека, па яе словах, высокаінтэлігентнага і эрудзіраванага. І не іх віна, што першай Талачынскай школе, якую ўзводзілі яшчэ пры цары Кесары, калі свет гарэў, а салому тушылі, мабыць, даўно пара на заслужаны адпачынак. "Вузка! Цесна! Мала!" — як тут не ўспомніць Цётку?.. "А скуль узяць?"

Вузкія калідоры. Цесныя класныя пакойчыкі. А сталовая! Школьная сталовая падобная да баковачкі, якую семсот дваццаць восем пар вучнёўскіх чаравікаў вытапталі ўсяго за месяц, як бы і не фарбавалі сёлета падлогу. А фарбавалі. І рабілі на сценах мудрагелістыя ўзоры. Паверце, абодва дырэктары, як Галіна Герасімаўна колісь, так і Аляксандр Сцяпанавіч зараз, робяць усё магчымае, каб і ў гэтай старэнькай школе неяк працавалася і вучылася весялей. З густам афармлены кабінеты. Узяць хаця б малодшыя класы, дзе Галіна Герасімаўна завучам. Тут, бачна, папрацавалі не толькі прафесійныя мастакі, але, галоўным чынам, самі настаўнікі — выразалі, клеілі, ляпілі... Люба зайсці. І не сорамна паказаць гасцям. Люба зайсці — ды нялюба заходзіць. Бо той самы корпус, дзе атабарыліся малодшыя класы, — гэта... звычайны драўляны дом. Ну, можа, крыху большы. Ну, абшаляваны ды, можа, знаходлівей, чымся іншыя, аздоблены драўлянаю разьбою. А ў астатнім... Балюча глядзець, як касыя дажджы замачылі сцяну, непамысна ўяўляць, як дзеткі адсюль зімою бягуць праз вуліцу ў тую цесную баковачку-сталовую, што размешчана ў другім корпусе. Дарэчы, на вуліцу ж бегаюць яны і па патрэбе. "Усе зручнасці", як кажуць, за вуглом. Тыя "апартаменты" школьнікі трапна ахрысцілі Пячораю. Іншым словам іх і не назавеш. І гэта, паўтараю, цэнтр Талачына, горада, дзе літаральна за год выраслі новыя будынкі міліцыі, пракуратуры. Знайшліся ж сродкі. Горада, дзе дазваляюць сабе раскошу ўдзень паліць вулічныя ліхтарыкі. Днём з агнём, а зэканоміць можна на школе.

Дарэчы, днём з агнём не знойдзеш і школьнага інтэрната, падобнага таму, які ўбачыў я ў гэтай школе. Не інтэрнат — гасцініца. Зноў не тое. Хіба павернецца язык назваць казённым словам тое, што нават і не пахне казёншчынай. А пахне тут, ізноў жа, кветкамі, хатнімі кветкамі арыгінальных формаў ды розных відаў. "Джунглі" дый годзе. Не хапае хіба дэндрарыя. І гэта, зноў-такі, у звычайным школьным інтэрнаце, які размяшчаецца ў тыповай сялянскай хаце. А гаспадаром тут (гаспадаром, а не проста выхавальнікам) Леанід Аляксандравіч Пазняк, чалавек, які яшчэ помніць, калі будавалі гэтую школу, чалавек захоплены і ў лепшым сэнсе гэтага слова фанатычны. Дзякуй вам, захопленыя людзі, што здолелі сацыяльна-бытавую няўдобіцу ператварыць у квітнеючую аранжарэю! Нізкі паклон! Але ж...

Шмат даводзілася пабачыць школак, дзе яшчэ й горшыя ўмовы працы. Асабліва па вёсачках. Ліпеюць будынкі, гібеюць вучні.

— Вузка! Цесна! Мала!..
— А скуль узяць?

Уладзімір МІХНО.

# НГ-ІНФАРМ

ЦЭНТР ПА РАБОЦЕ З АДОРАНЫМІ ДЗЕЦЬМІ

ЗАПРАШАЕ

выкладчыкаў інфарматыкі набыць метадычныя распрацоўкі для тых, хто пачынае вывучэнне прадмета. Тэматыка методыкі "Мова праграміравання "Бейсік" уключае тэорыю і практыку (машынны варыянт правядзення занятку).

**Кошт 500 руб. Магчыма перасылка па пошце. Па пытанні набыцця звяртацца на адрас: 220600, Мінск, вул. Ульянаўская, 8, пакой 226, тэл. 27-62-16.**

ВАЗЬМІЦЕ НА ЗАМЕТКУ

## Прымаюцца заяўкі

Лабараторыя выхаваўчай работы Навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання арганізуе падрыхтоўку да выпуску навучальна-метадычнай літаратуры, іншых сродкаў выхавання наступных накірункаў:

Метадычная літаратура па выхаваўчай рабоце для настаўнікаў, выкладчыкаў, класных кіраўнікоў, выхавальнікаў, сацыяльных педагогаў, практычных псіхолагаў, кіраўнікоў гурткоў, арганізатараў дзіцячага калектыву.

Літаратура, іншыя сродкі для дзяцей і моладзі па разумовым, фізічным, маральным, эстэтычным і г.д. развіцці і выхаванні.

Метадычная літаратура па сямейным выхаванні для бацькоў, настаўнікаў, вучняў.

Навучальна-метадычная літаратура для работы гурткоў навучальных і пазашкольных устаноў.

Жадаючыя надрукаваць свае тэарэтычныя і практычныя напрацоўкі могуць падаць заяўкі і прапановы ў НМЦэнтр на адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б.Хмяльніцкага, 3, Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання,лабараторыя выхаваўчай работы, пакоі 204, 205. Тэл. 39-87-35, 39-87-36,

ВЕЧАРЫНЫ

### СТАРЭЙШАМУ СКАЎТУ

У 81-й сярэдняй школе Мінска адбыўся вечар памяці, прысвечаны беларускаму паэту, пісьменніку і мастаку Сяргею Міхайлавічу Новіку-Пяюну.

На вечарыне выступілі паэты Уладзімір Скарынін і Сяргей Панізнік са сваімі ўспамінамі аб Сяргею Міхайлавічу. Яны гаварылі і пра тое, што Новік-Пяюн напісаў больш як 200 песень і іх трэба выдаць, бо па сваёй мелодыцы яны непаўторныя — увабралі ў сябе ўсю сакавітасць, прыгажосць і мілагучнасць роднай мовы. Сяргей Міхайлавіч таксама аўтар больш 40 мастацкіх карцін.

С.М.Новікаў-Пяюн уступіў у скаўцкую арганізацыю Нясвіжскай гімназіі ў 1921 годзе, дзе кіраваў дружынай малодшых скаўтаў-ваўчкоў. Ён багата дапамагаў скаўтам Беларусі, і асабліва цесныя творчыя сувязі ў яго былі са скаўтамі харугвы імя Янкі Купалы.

На вечары гучалі песні на словы і музыку Сяргея Міхайлавіча, дзе спевакі выканалі песні, напісаныя паэтам: "Зорачкі", "Краска шчасця", рамансы "Я вазьму цябе за рукі", "Белы снег", "Калі б я мог быць вольнай птушкай" і іншыя.

Віктар АКІМАЎ —
ровар-скаўт МХС імя Я.Купалы,
сябар рады аб'яднання
беларускіх скаўтаў.

ВЫСТАВЫ

### Экспануюцца падручнікі і іншыя кнігі

**У выставачнай зале Дома кнігі ў Мінску пачала працаваць штомесячная выстава "Беларуская кніга-94". Выдавецтвамі краіны прапанаваны шэраг цікавых выданняў, выпушчаных імі ў апошні час.**

Сярод экспануемых кніг — "Беларускія пісьменнікі" (бібліяграфічны слоўнік), "Памяць" (Расонскі раён), навукова-папулярнае выданне "Таинственное и загадочное". Гэтыя кнігі выпушчаны выдавецтвам "Беларуская энцыклапедыя". Шмат кніг прадстаўлена "Народнай асветай". У асноўным гэта падручнікі: "Алгебра" (7 клас), "Агульная біялогія" (10 клас), "Сусветная гісторыя" (10 клас), "Беларуская мова" (4 клас), прапісі для першакласнікаў.

На выставе экспануюцца рэлігійныя і ведамасныя выданні, кнігі недзяржаўных выдавецтваў.

У час адкрыцця выставы адбылася прэзентацыя кнігі выдавецтва "Юнацтва" "Свяці, свяці, сонейка" (творы беларускага фальклору).

Святлана ХОРСУН.

ХТО ШУКАЕ, ТОЙ ЗНАХОДЗІЦЬ

## ВУЧЭЛЬНЯ, ЯКАЯ КОРМІЦЬ НЕ ТОЛЬКІ СЯБЕ

У касцюкоўскім ПТВ-179 у недалёкім мінулым набывалі прафесію штогод звыш паўтысячы юнакоў і дзяўчат, у асноўным з вёскі. У сістэме спецыялізацыі пераважаў курс падрыхтоўкі механізатараў шырокага профілю, вадзіцеляў аўтамашын, агароднінаводаў.

Аднак час патрабаваў пашырэння профіляў. Новы паварот у падрыхтоўцы кадраў пачаўся з прыходам дырэктара Леаніда Сцяпанавіча Сматрыцкага, а затым — і наступнага абнаўлення адміністрацыйна-кіраўнічага звяна ПТВ на конкурснай аснове. І педагагічны калектыў паступова пачаў ачышчацца ад кансерватызму і ў навучальным, і ў выхаваўчым працэсе, стаў выпрацоўваць новую канцэпцыю падрыхтоўкі высокакваліфікаваных кадраў не толькі для аграрнага сектара, але і іншых галін народнай гаспадаркі. Так вось спрацаваў класічны прынцып: перавага не ў колькасці, а ў якасці.

Сёлетні набор скараціўся ў параўнанні з ранейшым амаль удвая. Парог ПТВ пераступіла 210 юнакоў і дзяўчат — дзяцей як з сельскіх, так і з сем'яў рабочых прамысловых прадпрыемстваў, і нават дзяцей вясковай і гарадской інтэлігенцыі.

Цяпер юнацтва ў сценах навучальнай установы атрымоўвае такія спецыяльнасці, як трактарыст-машыніст шырокага профілю, вадзіцель катэгорыі "В" і "С", якія засталіся, як і раней, факультатыўна можна атрымаць правы матацыкліста. Акрамя таго, пачалася падрыхтоўка слесараў, электрагазазваршчыкаў і электрамантажнікаў. Дзяўчаты набываюць спецыяльнасці: гаспадыня сядзібы, агароднік-садавод, аператар машыннага даення, прадавец, повар. Новым напрамкам з'яўляецца і падрыхтоўка кранаўшчыкоў.

Гэта адзін бок справы. Другі — як выжыць ва ўмовах рынку, працаваць так, каб не стаяць з вечна працягнутай рукой і нават у пэўнай меры аблегчыць існаванне кожнага члена калектыву. Можна сказаць, што ў гэтым плане ёсць ужо нядрэнныя здабыткі.

У навучальнай установе разам з педагогамі, майстрамі вытворчага навучання, абслуговым персаналам і рабочымі занята 132 чалавекі. Ды яшчэ 20 пенсіянераў з ліку былых супрацоўнікаў. Пачалі з заключэння калектыўнага дагавору паміж адміністрацыяй вучылішча і прафсаюзнай арганізацыяй, у якім агавораны меры сацыяльнай абароны для розных катэгорый работнікаў і пенсіянераў.

Так, ад працоўнага стажу залежыць павышэнне працэнта дапамогі работніку пры прадастаўленні яму чарговага водпуску. Стала законам унутранага жыцця калектыву аказанне грашовай дапамогі ў выпадку нараджэння ў сям'і дзіцяці, на вяселле маладажонам, аплачваюцца рытуальныя паслугі. Пэўную суму атрымліваюць і тыя, хто ідзе на заслужаны адпачынак. Акрамя таго, у мінулым годзе кожнаму з 20 пенсіянераў былі ўручаны разавыя дапамогі.

Усе гэтыя, як і іншыя, так бы мовіць, прывілеі замацаваны рашэннем выканкама Яромінскага сельскага Савета, на тэрыторыі якога размяшчаецца ПТВ.

За кожным работнікам замацаваны зямельныя ўчасткі пад сад і агарод. А за пенсіянерамі такія ўчасткі застаюцца пажыццёва. І ў гэтым, без усялякіх гучных слоў, крыецца ва ўмовах эканамічнай разрухі гарантыя павышэння жыццёвага ўзроўню людзей.

Гэта што тычыцца ўзаемін адміністрацыі вучылішча з сённяшнімі і былымі супрацоўнікамі навучальнай установы, незалежна ад іх, калі можна так сказаць, рангавага ранжыру.

Адкуль, з якіх крыніц бяруцца сродкі? Ад прыбыткаў з калектыўнай гаспадаркі. Некалькі соцень гектараў урадлівай нівы, плюс статак буйной рагатай жывёлы (140 бычкоў на адкорме і 50 кароў), мікрасвінаферма (4 свінаматкі і 20 адкормкаў), строгая працоўная дысцыпліна і працавітасць людзей прыносяць важкі прыбытак, які нязменна накіроўваецца не толькі на сацыяльную абарону сваіх людзей, але і на развіццё гаспадаркі, умацаванне навучальнай базы, павышэнне культуры земляробства, пашырэнне вытворчых плошчаў і прырост канчатковай таварнай прадукцыі, якая не толькі паступае ў засекі дзяржавы, але часткова прадаецца праз уласныя гандлёвыя пункты на гарадскіх рынках, ды і непасрэдна сваім работнікам (ім — па льготных цэнах).

Дарэчы, па ўраджайнасці, па надоях і прывагах паказчыкі падсобнай гаспадаркі вучылішча намнога вышэй сярэднестатыстычных раённых. Са 144 тон валавога надою малака большая частка прадаецца дзяржаве, а астатняе рэалізуецца ў сваім калектыве. Мяса атрымоўваюць тут штогод не менш як 16 тон, збожжа — больш як 260 тон. Рэалізуюць па рыначных цэнах расаду, агародніну. У вучылішчы наладжана цяплічная і парніковая гаспадарка.

Па выніках мінулага гаспадарчага года ад рэалізацыі атрыманай прадукцыі на рахунак вучылішча паступіла 106 мільёнаў рублёў. Калі адмінусаваць прамыя затраты, чыстага прыбытку там мелася 71 мільён.

На сённяшні дзень на патрэбу гаспадаркі працуе 36 трактароў, 20 грузавых і 5 легкавых аўтамабіляў. Каб мець такі аўтатрактарны парк у дзеяздольным стане і карыстацца ім бесперабойна, патрэбна забяспечыць і аптымальныя ўмовы яго захавання, зберажэння, ашчаднай эксплуатацыі. Ёсць асфальтавыя пляцоўкі для стаянкі, гараж, рамонтныя майстэрні.

На ўмацаванне вытворчага сектара штогод выкарыстоўваюцца немалыя грошы. Толькі летась за наяўны разлік набыты 2 трактарныя прычэпы, 4 трактары, 4 легкавыя аўтафургоны, кормазапарнік. Новы аўтакран каштаваў 40 мільёнаў рублёў, будаўніцтва агароднінасховішча абышлося ў 10 мільёнаў.

Не паскупіліся ў вучылішчы на затраты, вынялі лішні грунт і пераабсталявалі падвалы пад навучальным корпусам і ператварылі іх у пастаянную фабрыку па вырошчванню грыбоў вешанак. Там гаспадарыць Валерый Швайлікаў, ён жа і выкладчык фізкультуры.

Ёсць у вучылішчы таксама ўмовы для ўвядзення ў строй уласнага птушніка для ўтрымання курэй і качак.

Дасягаць усё новых поспехаў у накірунку самастойнага гаспадарніцтва дапамагаюць адміністрацыі і педагагічнаму калектыву ініцыятыўныя спецыялісты. У вытворчасці таварнай прадукцыі — выдатны арганізатар, кіраўнік вытворчага ўчастка Анатоль Байкоў, галоўны заатэхнік Аляксандр Ляднеўскі, дзесяць чалавек у жывёлагадоўчым цэху, ёсць некалькі дзесяткаў паляводаў і механізатараў.

На жаль, поўнай самастойнасці ў вытворча-эканамічнай дзейнасці вучылішча не мае. У прыватнасці, атрымаў мяса ці тое ж зерне, гародніну — прадавай дзяржаўным прыёмшчыкам, а дарога да рыначнай рэалізацыі як была, так і засталася ў асноўным перакрытай. Таму і выказвае кіраўніцтва вучылішча настойлівую просьбу да Міністэрства адукацыі і навукі, каб яно прыняло на сябе місію пасрэдніка паміж сістэмай ПТВ і ўрадам у сэнсе надзялення сваіх навучальных устаноў (на першым часе хоць бы ў эксперыментальным парадку) статусам гаспадарча-эканамічнай самастойнасці.

Аляксандр АМЕЛЬЧАНКА.

НА ЗДЫМКАХ: адміністрацыя вучылішча прымае "пад ключ" новую залу для заняткаў харэаграфіяй; Мікалай Аляксеевіч ЖЫГАЛІН на занятках ў аўталабараторыі; Валерый Сцяпанавіч ШВАЙЛІКАЎ — дарадчык юных цяжкаатлетаў; будучыя гароднінаводы і прадаўцы харчовых тавараў.

Фота Юрыя БОНДАРАВА.

КАЛОНКА З ПРАЦЯГАМ

Анатоль АЎРАМЧЫК

# У ЖНІЎНІ ДЗЕВЯНОСТА ЧАЦВЁРТАГА

## НЕВЕРАГОДНАЯ ГІСТОРЫЯ, ЗАПІСАНАЯ СА СЛОЎ ПАНА ВАЦЛАВА

Верыць ці не ніжэй напісанаму — справа чытача. Зрэшты, я знаходжуся ў той жа сітуацыі: дакладна магу паверыць толькі ў тое, што бачыў на ўласныя вочы (яны ў мяне ледзь не папрасіліся з арбіт!) у майстроўні пана Вацлава, як яго называюць у Залучанах, і нават пакратаў рукамі. Усё астатняе — на яго сумленні. Але нават калі ён выдумаў (навошта? дзеля чаго?) гэтую неверагодную і дзікаватую гісторыю, то трэба аддаць яму належнае — выдумаў з толкам.

Шчыра, дык я асцярожна цікавіўся (не ў вёсцы, праўда) у людзей, што няблага яго ведаюць: ці не блазнуе пане Вацлаў іншым разам, ці не водзіцца за ім звычка пераказваць байкі? Адназначана кажуць — не, чалавек дужа сур'ёзны. І пры поўным, што гаворыцца, розуме ў свае восемдзесят.

Увогуле, пана Вацлава, як такога, не існуе. Клічуць яго трохі іначай. Ёсць у яго, зразумела, і прозвішча, якое, як і вёску, дзе ён жыве, мы называць не будзем. Скажу толькі, што даўняя тая падзея і наступныя за ёй, у тым ліку зусім нядаўнія, мелі і маюць месца ў адной заходняй мясціне Рэспублікі. Для чаго такая канспірацыя?

Каб не навесці вялікую бяду на пана Вацлава, а яшчэ — не справакаваць драпежнага бляску ў прагных вачах шматлікіх скарбашукальнікаў ды іншай масці авантурыстаў. Таму нават некаторыя знешнія адметы, па якіх можна "вылічыць" вёску, аўтар палічыў за лепшае закамуфляваць. Карацей, антураж, "дэкарацыі" — мае, сюжэт — пана Вацлава.

Пазнаёміліся мы з ім выпадкова, як тое часта здараецца ў камандзіроўках, гадоў пяць таму.

Я праездам заглянуў у невялікую сельскую васьмігодку. Сядзім, гаворым з дырэктаркай. Размова не надта клеіцца, бо дырэктарцы, адчуваецца, хваліцца асабліва няма чым. І тут у цесны яе кабінецік, папытаўшыся дазволу, заходзіць, прыпадаючы на левую нагу (яна ў яго трохі карацейшая, ад нараджэння), невысокі, каржакаваты, у гадах мужчына, у вайсковым, збольшага заношаным вайсковым бушлаце. Гаспадыня пакоя надта абрадавалася ягонаму прыходу. Перакінуўшыся з прыйшоўцам парай-другой слоў пра тое, што заўтра трэба прывесці на школьны участак два прычэпы торфагною, дырэктрыса павярнула няведама чаго ззяючы твар да мяне:

— Гэта наш заўгас, Вацлаў Іосіфавіч. Вось з кім вам бліжэй пазнаёміцца трэба! Ён вам такое пакажа! Такое пакажа!

І зноў — зырк на яго: маўляў, пазбаў ад карэспандэнта.

Вацлаў Іосіфавіч паглядзеў на мяне:

— Далібог, не ведаю, чым вас здзівіць. Аднак, калі ёсць ахвота, прашу ў госці. Там самі ўсё і ацэніце.

Перасягнуўшы сцежкай праз старыя, але дагледжаныя, польскага часу могілкі, мы прайшлі амаль усю, хат на восемдзесят, вёску, у канцы вуліцы завярнулі на шырокі пясчаны выган, якім, трэба думаць, сяляне ганялі на луг кароў. Паўзбоч выгану, як бы ўжо за мяжой вёскі, стаяла ў шнур тры хаты. Апошняя, з даўжэзнай гаспадарчай прыбудовай, і была сялібай Вацлава Іосіфавіча.

Дарогай ён паведаў, што Залучаны з'явіліся толькі пасля вайны, пад час павальнай калектывізацыі, калі хутары пачалі сцягваць у паселішчы. Іхняму хутару пашанцавала — "пераязджаць" не спатрэбілася, бо якраз на гэтую вялізную паляну, колішняе, па-за бацькавай памяццю, выжарышча, сярод залучанскага лесу, перасялялі вакольных, нядаўна яшчэ вольных гаспадароў-аднаасобнікаў. Хоць пашчасціла, канешне, даволі ўмоўна. Якое там пашчасціла, калі на паляне ўсе бацькавы ўгоддзі ўмяшчаліся, акрамя, хіба, сенакосу, ён мурожыўся за рэчкай. Ну, а паколькі іхні хутар туліўся ля самага ўзлеску, ад ветру, то так і атрымалася, што вуліца пацягнулася амаль строга на поўдзень. А гэта, прызнацца, прамашка, бо калі хто прыкмячаў, то вёскі звычайна, асабліва калі яны ў адну вуліцу, стаяць з усходу на захад, інакш паўночны вецер прадзімае паселішча наскрозь.

З таго часу Залучаны не змянілі свайго "архітэктурнага плана", калі не лічыць дробязяў: хтосьці паставіў новую хату, нехта пагарэў і з'ехаў, а пустка засталася...

А яшчэ аказалася, што гэта ён цяпер заўгас, бо стары, а ўвогуле Вацлаў Іосіфавіч настаўнік беларускае і рускае мовы. Настаўнічаць пачаў да вайны, тады, аднак, выкладаў польскую. Дaслужыўся да завуча, пасля пенсіі яшчэ амаль шэсць гадоў вучыў дзетак, ну, а паколькі здароўя і сілы, дзякуй Богу, не бракавала, дырэктрыса і папрасіла застацца заўгасам. Трапіў у яго майстроўню і зразумеў, чаму яна так папрасіла.

Зрэшты, павінен быў здагадацца і раней, ідучы вуліцай. Амаль што ні хата — ліштва, аканіцы, вароты ды калiткі з такімі ўжо выкрунтасамі — загледзішся.

— Хто гэта ў вас карункі такія вымудроўвае?

— Ат, ёсць адзін дзівак, — адмахнуўся мой спадарожнік.

Аказваецца, яго хата толькі здаля, як іншыя. А падышлі! А што ён ў майстроўні сваёй, якая палову даўжэзнай пабудовы займае, паказаў — і ў натуры, і ў эскізах! Шкадаваў я, што не меў з сабой фотаапарата.

Наступны раз, калі занесла ў гэты край, знарок даў кругаля і завярнуў у Залучаны. Не сказаць, што зусім без справы. Стрыечны брат заканчваў дачу, я яму пра пана Вацлава расказаў, дык ён і папрасіў сёе-тое, па драбязе, заказаць. Пасля, кажа, прыеду забяру, балазе, не надта далёка.

Сядзелі мы ў майстроўні доўга, да вечара, закусвалі-перакусвалі, балэкалі пра ўсё на свеце, да апошняга аўтобуса на райцэнтр. А напрыканцы размова выйшла такая:

— Аканіцы аканіцамі, а ёсць мне што табе сказаць.

Я настрыўся слухаць.

— Маем час. Як-небудзь іншым разам. Калі, вядома, прыедзеш...

Мінула два гады. Тая неакрэсленая абяцанка і забылася ўжо. Аж сёлета неспадзеўку ўспомнілася. Я патэлефанаваў.

— Самы юбілей. Прыязджай. І не цягні, а то ў пачатку верасня з'еду ў санаторый.

— Які юбілей? — перапытваю.

— Не бойся, не мой. Юбілей сюжэта.

* * *

Мы зноў сядзім у майстроўні пана Вацлава. Пахне свежай стружкай, сенам і спелымі яблыкамі.

— Заўтра сходзім у грыбы. Шмат не абяцаю, але на суп хопіць і паджарыць з бульбай застанецца, яшчэ і суседцы кошык занясём.

І раптам — без усякага пераходу:

— Глядзі сюды.

І здымае з варштата грубую посцілку.

Гэта мне пасля ўжо нагадаліся словы дырэктаркі: "Ён вам такое пакажа! Такое пакажа!" Мела яна, канешне, на ўвазе зусім іншае — адмысловую сталярку. А тут...

У паглыбленні варштата халодна паблісквалі цёмнай сталлю нямецкі парабелум, "вальтэр", два пісталеты ТТ і "шмайсер" у поўнай зборцы з прымкнёным магазінам.

Я яшчэ не скінуў разгубленасці ад сузірання гэтай занадта экзатычнай для настаўніка калекцыі, як пане Вацлаў выцягнуў з-за пояса наган з круглым барабанам і паклаў побач.

— З вайны. У нас тут гэтага дабра па лесе валялася...

Аўтаматы, вінтоўкі, кулямёты — праўда, у большасці без затвораў, але пахадзіўшы можна было натрапіць. Мерыўся здаць, ды так во і здаю дагэтуль. І патронаў, як бобу. А калі б і здаў, то вось гэты, — ён адкінуў ражок посцілкі, кіўнуў на наган, — пакінуў бы. Мне без яго ніяк.

Я з ім і на працу хаджу.

Я ашалела ўперыўся вачыма ў пана Вацлава.

— Ты вельмі не дзівіся. Рана дзівіцца, — і дадаў: — Дык чаму ж не пытаешся, навошта гэты зброевы складзік паказаў?

Я няўцямна пацінуў плячыма.

Ён сеў, аблакоціўся на карацейшую нагу.

— Паказаў па трох прычынах. Каб ты бачыў, што давяраю табе. Гэта адно. Другое. Значыць чакаю і ўзаемнага даверу, а дакладней, спадзяюся, што паверыш у мой аповяд. І трэцяе. Адна з гэтых "пушак" напрамкі датычыцца гісторыі, якая яшчэ наперадзе.

Пане Вацлаў зноў падышоў да варштата.

— Калі быць шчырым, дык да канца. Цяпер глядзі, куды хаваць буду, Пасоб.

Ён узяў аўтамат, адамкнуў магазін, я асцярожна зграб чатыры пісталеты.

— Наган пакінь. Мне вечарам у школу ісці. А, я не казаў: заўгасаўства кінуў, вартаўніком застаўся. Буду вартаўнічыць, пакуль не вышкураць.

Няшмат часу спатрэбілася пану Вацлаву, каб зніклі сляды зброі. Мне цяжка ўявіць чалавека, фантазіі якога хапіла б для таго, каб не тое што знайсці, а проста думку дапусціць пра падобную схованьь. Чэсна скажу: такіх патаемнікаў не бывае. Ёсць толькі адзін — у пана Вацлава. Тут нават мінашукальнік, такі чуйны на метал, акажацца бескарыснай жалезнай палкай.

Ну, не падманула колісь дырэктарка: паказаў пане Вацлаў дык паказаў! А каб яна ведала, што ён яшчэ можа расказаць!

ДЗЁННІК КАРЫСНЫХ ПАРАД

# ТЫСЯЧА ДРАБЯЗЫ

## ДАМАШНІЯ ТУРБОТЫ

Вам не падабаецца пах табаку?

Ён знікае, калі адкрыць вокны і пакласці ў розных месцах пакоя 2—3 вільготныя махровыя ручнікі.

* * *

Каб зняць са сцен старыя шпалеры, трэба папярэдне двойчы змачыць іх гарачаю вадою.

* * *

Нельга наклейваць шпалеры на сцены, якія замазаны шпаклёўкай (на алебастры). Шпалеры адклеяцца, шпаклёўка разбурыцца. Перад наклейваннем трэба злёгку прааліфіць сцены і даць ім высахнуць.

* * *

Пафарбаваная падлога будзе мець прыемны бляск, калі яе памыць цёплай вадой, у якую дадаць 1/2 стакана воцату і 2—3 сталовыя лыжкі нашатырнага спірту.

* * *

Люстэрка нельга вешаць у тых месцах, куды падаюць прамыя сонечныя прамяні. Ад іх і ад высокай тэмпературы яно хутка блякне.

## ВАКОЛ КВЕТАК

Кветкі больш часу будуць свежыя, калі зрэзаць іх зранку або вечарам пасля заходу сонца, робячы на сцябле касы надрэз вострым нажом (але не нажніцамі).

* * *

Хрызантэмы лепш не зразаць, а абломваць.

* * *

Вяргіню і цыкламены зразайце толькі тады, калі яны расцвітуць. Усе астатнія кветкі можна зразаць бутонамі, калі яны ўжо набылі сваю афарбоўку. Кветкі адразу ж паставіць у ваду пакаёвай тэмпературы і патрымаць у цёмным халаднаватым месцы не меней дзвюх гадзін. Толькі тады з іх можна састаўляць букеты.

* * *

Кветкі, якія вы купілі ў краме, трэба абавязкова асвяжыць дома: паставіць у ваду і адрэзаць канцы сцябла на 1—2 см. Добра, калі дабавіць у ваду кавалачак вугельчыка ці насыпаць з яго парашок; можна таксама дадаць трошкі нашатырнага спірту ці 1 чайную лыжку кухоннай солі на 1 літр вады.

* * *

Некаторыя кветкі, напрыклад ружы і гваздзікі, лепш захоўваюцца, калі ў вадзе ёсць цукар (7—10 і нават 15%-ны раствор). Для вяргіняў і гваздзік карысна пакласці ў ваду аспірын.

* * *

Нельга ставіць ружы і гваздзікі на радыёпрыёмнік — яны вельмі адчувальныя нават да такіх нязначных уздзеянняў, як гукавыя хвалі, і хутка вянуць.

## ГАСПАДЫНІ НА ШТОДЗЕНЬ

Трыкатажная вопратка становіцца быццам падкрухмаленай, калі яе прасаваць праз тканіну, намочаную мыльнаю вадою.

* * *

Мыла, якое захоўваецца ў сухім месцы, служыць у тры разы прадуктыўней за сырое.

* * *

Плямы ад чаю выводзяцца сумессю гліцэрыну з нашатырам (на 4 часткі гліцэрыну 1 частка нашатырнага спірту).

* * *

Плямы ад кавы, какавы выводзяцца з дапамогай нашатырнага спірту, напалову разведзенага вадою. Асабліва добры эфект атрымліваецца, калі спачатку працерці пляму бензінам.

* * *

Плямы ад чарніла можна вывесці растворам нашатырнага спірту і піцявой соды (1 чайная лыжка спірту і 1—2 чайныя лыжкі соды на стакан вады).

* * *

Каб вывесці тлушчавую пляму з дывана, намачыце жменю драўлянага пілавіння ў бензіне, патрыце ім забруджанае месца і на некаторы час пакіньце пілавінне на дыване.

* * *

Каб надушыць насоўкі, дастаткова дабавіць у ваду пры паласканні некалькі кропель духоў.

* * *

Папрасаваную накрухмаленую бялізну не трэба адразу класці ў шафу, бо бялізна будзе пахнуць крухмалам.

* * *

Прасаваную вопратку не трэба адразу апранаць, інакш яна хутка пакамечыцца.

* * *

Каб прас не прыліпаў да накрухмаленай бялізны, дабаўце ў крухмал трошкі солі.

* * *

Калі вопратка падпалена прасам, замачыце пляму сокам рэпчатай цыбулі і пакіньце на некалькі гадзін, а затым памыйце.

* * *

Калі перад тым, як прасаваць, бялізну злёгку змачыць гарачаю вадою, то яна прасуецца значна лягчэй, чым тады, калі яе змочваюць халоднай вадой.

* * *

Памыляюцца тыя, хто думае, што чым болей вісіць бялізна на ветры, тым для яе лепш. Пры вельмі доўгім высыханні тканіна становіцца ломкай, разбураюцца яе валокны.

* * *

Каб развешаная зімой бялізна не замярзала, дабаўце ў ваду для паласкання крыху солі.

* * *

Каляровая бялізна не паліняе, калі яе на некалькі хвілін замачыць у салёнай вадзе.

## АПТЭКА Ў КВАТЭРЫ

Сок цыбулі лечыць пры прастудных захворваннях. Сакрэт яе ўздзеяння — у высокім утрыманні фітанцыдаў (лятучых рэчываў, згубных для мікробаў). Натрыце цыбуліну на мелкай тарцы, выцісніце праз марлю яе сок, наліце у спадак і падыхайце над ім.

Бактэрыцыдныя якасці часнаку вядомыя з даўніх часоў. Жаванне долькі яго на працягу 3—4 хвілін забівае бактэрыі ў роце. Для ўмацавання валасоў сок часнаку ўціраюць у скуру галавы.

Вазьміце на заметку: часнок узбуджае апетыт, таму яго не рэкамендуецца есці людзям, схільным да паўнаты.

У шклянцы моцнага чаю утрымліваецца кафеіну столькі ж, колькі, напрыклад, у таблетцы піркафену. Стакан моцнага салодкага чаю можа пазбавіць ад галаўнога болю.

Калі разбалелася вуха, пакладзіце ў яго ватку, злёгку змочаную цёплым вазелінавым маслам, настойкай календулы ці борным спіртам.

Пры прастудзе 1—2 чайныя лыжкі сухіх ліпавых кветак заварыце шклянкай кіпеню, дайце настаяцца і піце гэты цёплы настой нанач. Ім таксама можна паласкаць горла.

## САКРЭТЫ ПРЫГАЖОСЦІ

Крэм-пудра павінна выглядаць натуральна. Яе наносяць на твар кончыкамі пальцаў. Крэм-пудра выглядае натуральней, калі пасля нанясення працерці твар злёгку вільготнай губкай. Пастарайцеся як след уцерці крэм-пудру у скуру, і асабліва ў вобласці шыі і каля вушэй, бо паверхневыя слаі выглядаюць неэстэтычна, а нанесеная ў вялікай колькасці пудра пэцкае каўнерык блузкі ці сукенкі.

Выбар ценяў для вачэй вельмі багаты. Калі вы не ўпэўнены, які колер ценяў вам больш за ўсё пасуе, трэба зыходзіць з колеру вачэй або з асноўнага колеру, які пераважае ў вашым адзенні. Ні ў якім разе не ўкарочвайце натуральную лінію броваў.

Раніцай і ўвечары расчэсвайце бровы мяккаю зубною шчоткай, папярэдне змазаўшы іх тлустым крэмам.

Мыючы шыю ўранку і ўвечары мылам, вы змываеце са скуры натуральны тлушч, які ёй неабходны. Лепш вечарам праціраць шыю і твар касметычным малачком, а раніцай дастаткова памыць шыю халоднай вадой. Затым змажце яе дзённым крэмам.

Сырое малако паляпшае колер твару. Некалькі тыдняў запар штодзень праціраймце твар малаком, не змываючы яго паўгадзіны.

Для ачышчэння тлустай скуры рэкамендуецца вада з лімонным сокам, падрыхтаваная наступным чынам: лімон разрэзаць на долькі, заліць халоднаю вадою і настойваць 2—3 гадзіны ў закрытай пасудзіне. Затым вадкасць працадзіць.

Маска з морквы карысная для вялай скуры. Нанясіце на твар цёртую моркву, а праз паўгадзіны змыйце яе кіпячонаю вадою.

Пасля мыцця можна спаласнуць валасы настоем рамонка ці шалупіння цыбулі, каб надаць ім прыгожае адценне.

Ад выпадзення валасоў і перхаці можна лячыцца настоем ляснога падбелу. З гэтай жа мэтай можна выкарыстоўваць адвар з шышак хмелю.

Каб манікюр трымаўся даўжэй, апусціце пазногці з непрасохлым яшчэ лакам у халодную ваду.

Родныя краявіды.

НЯДЗЕЛЬНАЕ, ВЕЧАРОВАЕ, ВОЧНА-ЗАВОЧНАЕ ПАДРЫХТОЎЧЫЯ АДДЗЯЛЕННІ ГУМАНІТАРНАГА ЛІЦЭЯ ПРЫ БГАКЦ (БЕЛАРУСКІМ ГУМАНІТАРНЫМ АДУКАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНЫМ ЦЭНТРЫ)

## АБ'ЯЎЛЯЮЦЬ НАБОР НАВУЧЭНЦАЎ

на 1994-95 навучальны год

У ліцэі цікава, паглыблена, дакладна выкладаюцца гуманітарныя дысцыпліны, неабходныя ўсім, хто жадае паступіць у ВНУ, ліцэі, гімназіі і г.д.

На нядзельнае аддзяленне ліцэя прымаюцца вучні 8, 9, 10, 11 класаў.

На вечаровае аддзяленне ліцэя прымаюцца навучэнцы ПТВ, студэнты і ўсе жадаючыя.

На вочна-завочнае аддзяленне прымаюцца вучні 7, 8, 9, 10, 11 класаў.

Навучэнцы вочна-завочнага аддзялення выконваюць і дасылаюць кантрольныя працы.

На падрыхтоўчыя аддзяленні залічваюцца як жыхары Мінска, так і з другіх мясцовасцей краіны.

Навучанне платнае: да 6 мінімальных зарплат за 8 месяцаў навучання.

Заняткі пачынаюцца з кастрычніка. Даведкі па тэлефонах: 27-32-77, 27-54-42, 27-04-67 або па адрасе: г. Мінск, вул. Кірава, 21 (пакой 22).

ТЭАТР — ДЗЕЦЯМ

# Сустрэліся ў Мінску

## ДЗЕЯЧЫ НАВУКІ, АДУКАЦЫІ І КУЛЬТУРЫ ТРОХ КРАІН

Гэтыя дзве тэндэнцыі, узнікшы напачатку як паралелі, з цягам часу, страціўшы архімедавы каноны, набылі ўласцівасці, адкрытыя Лабачэўскім: яны не маглі не перасекчыся. Бо, дзейнічаючы быццам бы метадам "ад супрацьлеглага", мэту яны ставілі адну і тую ж: дзеці, іх стан, іх духоўны і душэўны камфорт, іх інтэлектуальныя і эстэтычныя мажлівасці і набыткі.

Аб якіх тэндэнцыях ідзе размова?

Вывучэнне псіхічнага развіцця дзяцей і падлеткаў сведчыць, што ў іх асяроддзі заўважаецца шэраг сімптомаў сацыяльнага і псіхалагічнага недабрабыту. Гэтая сусветная з'ява ў Беларусі мае (з-за Чарнобыля) спецыфічна-абвостраныя праявы. Шукаючы шляхі выраашэння ці хаця б на першым часе змякчэння праблемы, беларускія псіхолагі, у прыватнасці акадэмік Я.Л.Каламінскі, прыйшлі да высновы, што ў шэрагу іншых сродкаў паляпшэння сітуацыі не апошнюю ролю могуць адыграць і мэтанакіраваныя сумесныя дзеянні дзіцячага тэатра, навукова-педагагічных работнікаў, агульнаадукацыйнай і спецыяльнай школы.

З другога боку, Беларускі Рэспубліканскі тэатр юнага гледача даўно, настойліва і небезпаспяхова шукае выйсце на самую шырокую школьную аўдыторыю.

І таму шляхі дзеячаў мастацтва і псіхолага-педагагічнай навукі непазбежна перакрыжаваліся. І ўвасобіліся ў ідэю правядзення ў беларускай сталіцы мерапрыемства, аналага якому, бадай што, і не было, прынамсі, у нашай краіне.

І вось доўгая, карпатлівая і, улічваючы рэаліі сённяшняга дня, даволі складаная работа ўвасобілася ў жыццё.

На гэтым тыдні ў Мінску праходзяць Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Псіхалагічная рэабілітацыя дзяцей сродкамі тэатральнага мастацтва" і трыянале "Тэатр — дзецям".

Яны адбываюцца пад эгідай міністэрстваў культуры і друку, адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзіцячага фонду, Саюза тэатральных дзеячоў Беларусі, Мінгарвыканкама і Беларускага Рэспубліканскага ТЮГа.

У навукова-практычнай канферэнцыі прымаюць удзел вучоныя-псіхолагі, мастацтвазнаўцы, літаратары, педагогі з Беларусі, Расіі, Украіны, ФРГ, Польшчы, Славакіі. Яны абмяркоўваюць такія пытанні, як "Праблемы дзейнасці дзіцячых тэатраў у галіне маральна-псіхалагічнай рэабілітацыі і падтрымкі школьнікаў", "Псіхакарэкцыя дзяцей сродкамі тэатральнага мастацтва", "Месца школы ў сістэме "Тэатр — дзеці", "Навучальны курс для малодшай школы "Мастацтва быць гледачом" — сумесны эксперымент тэатра і гімназіі" і шэраг іншых.

На трыянале ў госці да Мінскага ТЮГа прыехалі са сваімі спектаклямі трупа "Шнаўль" Нацыянальнага тэатра з горада Мангейма (ФРГ) і Расійскі акадэмічны тэатр моладзі (Масква). Іх спектаклі разам з лепшымі работамі "гаспадароў пляцоўкі" змогуць ацаніць не толькі ўдзельнікі сумесных мерапрыемстваў, але і мінскія аматары тэатра.

Учора на прэсканферэнцыі, прысвечанай гэтай падзеі, было падкрэслена, што яе намаганні адрасаваны не толькі спецыялістам тэатра ці псіхолагамі, але перш за ўсё педагогам, бацькам — усім, хто вяршыць самую галоўную справу на зямлі — выхоўвае дзяцей, фарміруе іх асобу. І тым самым — творыць будучыню чалавецтва. Аргкамітэт мяркуе, што гэтая сустрэча (першая, але, спадзяёмся, не апошняя) дапаможа людзям тэатра і людзям навукі зверыць гадзіннікі, узгадніць свае творчыя пошукі і намаганні ў выкананні адной агульнай справы.

Як сказана ў звароце: "Мы... апрацоўваем і засяваем адно і тое ж поле, якое завецца ўнутраным светам асобы".

Сустрэчы ў Мінску, якія будуць працягвацца да канца бягучага тыдня, трэба спадзявацца, унясуць свае каліва спажыўных рэчываў для лепшага ўраджаю на гэтым полі.

Георгій КЛЯБАНАЎ.

ЦІКАЎНЫМ

# СЦЕРАЖЫЦЕСЯ ... ВЕЛАСІПЕДА

Кітай іншы раз называюць краінай веласіпедаў. І падстава для гэтага ёсць.

Першы веласіпед быў прывезены ў Шанхай у 1896 годзе. Праз чвэрць стагоддзя па кітайскай зямлі пачалі калясіць веласіпеды ўласнай вытворчасці. Зараз іх у Кітаі каля 200 мільёнаў: кожны шосты гараджанін і кожны трэці жыхар сельскай мясцовасці мае ўласны веласіпед. У гадзіны пік вуліцы кітайскай сталіцы запаўняе гіганцкі паток веласіпедыстаў, якія спяшаюцца на службу. Звыш сямі мільёнаў людзей у Пекіне і амаль 70 працэнтаў працоўных іншых буйных кітайскіх гарадоў дабіраюцца да работы на веламашынах.

Часам веласіпед і веласіпедысты ствараюць праблемы. Паводле слоў доктара аддзялення хуткай меддапамогі Цэнтральнай пекінскай бальніцы Шао Сяохуна, бестурботныя ездакі на веласіпедах ускладняюць становішча на дарогах. Веласіпедныя патокі, якія пастаянна павялічваюцца на вуліцах кітайскіх гарадоў, рэзка павышаюць аварыйнасць. Статыстыка сведчыць, што па віне веласіпедыстаў адбываецца да 40 працэнтаў дарожна-транспартных аварый, многія з якіх заканчваюцца летальным зыходам.

Гарадскія ўлады прымаюць меры, каб зменшыць рызыку язды на веласіпедах і пазбегнуць затораў на дарогах. Напрыклад, галоўныя магістралі буйных гарадоў падзелены на чатыры паласы: для аўтамабіляў, якія хутка рухаюцца, для транспартных сродкаў, хуткасць якіх не перавышае 30 — 40 кіламетраў у гадзіну, для веласіпедаў і для пешаходаў. Але веласіпедыстам яўна не хапае адведзенай ім прасторы. Яны пастаянна выязджаюць за межы сваёй паласы, робячы замах нават на хуткасную трасу.

СВЕЖЫЯ ЧАСОПІСЫ

# "Народная асвета"

Кастрычніцкі нумар часопіса адкрываецца рэдакцыйным артыкулам, прысвечаным адраджэнню беларускай нацыянальнай школы ў святле патрабаванняў Канстытуцыі нашай дзяржавы і Закона аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Пад рубрыкай "Арганізацыя народнай адукацыі" надрукаваны артыкул кафедры педагогікі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы, кандыдата педагагічных навук В.Грынкевіча "Педагагічныя тэхналогіі ў школе: дыдактычны аспект". Артыкул загадчыка кафедры педагогікі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта А.Грымаца і аспіранткі гэтай жа кафедры Л.Альшэўскай "Нацыянальная самасвядомасць: праблемы і перспектывы яе фарміравання" змешчаны пад рубрыкай "Пытанні педагогікі і псіхалогіі".

Выхаваўчая работа ў нумары прадстаўлена артыкулам ветэрана Узброеных Сіл, маёра ў адстаўцы Ф.Пятроўскага "З чаго складваецца асоба?" і заканчэннем артыкула дацэнта Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі У.Кабуша "Ліквідаванне аўтарытарызму ў дзейнасці педагога-выхавацеля і шляхі павышэння яго прафесіянальнай культуры".

Праблеме павышэння педагагічнага майстэрства з дапамогай выкарыстання электронна-вылічальнай тэхнікі прысвечаны артыкул навуковага супрацоўніка Нацыянальнага інстытута адукацыі З.Барысевіч "Камп'ютэрнае навучанне".

Пад рубрыкай "Тэма са школьнай праграмы" надрукаваны артыкул прафесара кафедры агульнай біялогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, доктара біялагічных навук А.Федарука "Жыццёвыя формы і іх разнавіднасць", працяг артыкула настаўніка-мастацтвазнаўца Мінскага мастацкага ліцэя Л.Турлая "Мастацтва Беларусі" і працяг артыкула старшага выкладчыка Наваполацкага дзяржаўнага універсітэта, кандыдата філалагічных навук Н.Лысовай "Што такое мастацтва кіно?".

Выкладчыкам розных школьных дысцыплін адрасаваны артыкулы настаўніцы вышэйшай катэгорыі (сярэдняя школа № 2 Оршы) В. Дзмітрыевай "Свет Платонава", дацэнта кафедры рускай мовы Белдзяржуніверсітэта, кандыдата філалагічных навук Е. Долбік "Складаназалежныя сказы са значэннем абумоўленасці і іх вывучэнне ў школе", старшага выкладчыка кафедры рускай мовы Мазырскага педагагічнага інстытута В.Русецкага "Пытанні культуры мовы пры аналізе мастацкіх твораў", настаўнікаў сярэдняй школы № 15 Пінска В.Казачкова і В.Казачковай "Рашэнне задач з выкарыстаннем электронных табліц у тэме "Камп'ютэрнае мадэліраванне", а таксама заканчэнне артыкула загадчыцы лабараторыі прыродазнаўча-матэматычнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі, настаўніцы сярэдняй школы № 147 Мінска, кандыдата педагагічных навук А.Шарапы "Выкладанне хіміі па базавай праграме".

У дапамогу арганізатарам пазакласнай работы з вучнямі надрукаваны "Прыкладныя планы заняткаў гурткоў школьнага геаграфічнага таварыства "Эканаміст", распрацаваныя дацэнтам Мазырскага педагагічнага інстытута, кандыдатам педагагічных навук А.Лісоўскім.

Артыкул дацэнта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны, кандыдата педагагічных навук В.Горленкі "Педагагічныя ўменні і навыкі: як іх фарміраваць" і заканчэнне артыкула загадчыка лабараторыі сямейнага выхавання Нацыянальнага інстытута адукацыі, кандыдата педагагічных навук В.Чэчата "Сямейнае выхаванне: з гісторыі і сучаснасці" змешчаны пад рубрыкай "Навуковыя паведамленні, публікацыі".

Уладзімір ЯКУБОВІЧ.

Галоўны рэдактар Алег КУЛІЦКІ.

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выдавецтва "Полымя" (220004, Мінск, праспект Машэрава, 11).

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; першага намесніка галоўнага рэдактара — 36-53-22; намесніка рэдактара-адказнага сакратара — 36-40-63; аддзелаў: праблем выхавання — 36-43-62, 36-41-55; школ — 36-90-63; органаў кіравання — 36-43-71; сацыяльных праблем; ВНУ і тэхнікумаў — 36-41-55; прафтэхадукацыі; пісьмаў і навін; культуры — 36-44-25

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па-бацьку, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Георгій КЛЯБАНАЎ.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку."
220041, Мінск, праспект Ф. Скарыны,79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны.Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №86
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 19 11 12
Падпісана да друку 25.10.94 г. у 18.10
Наклад 51.374 паасобнікі.